# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1967
Студзень-Люты

Год XV
№ 1 (100)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1967 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:

Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XV** **January - February** **№ 1 (100)**

**1967**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год. XV СТУДЗЕНЬ—ЛЮТЫ № 1 (100)



## БОЖЫМ ШЛЯХАМ...

Ад некалькіх ужо гадоў натужваем свае сьціплыя сілы, каб друкаваным словам сеяць зерне Божае праўды і несьці нашым суродзічам, раскіданым па ўсім сьвеце, весткі і патолю.

У дождж і завіруху, пры спрыяльнай братняй дапамозе і пры сыканьні недарэкаў, мы імкнуліся ня згубіць з вачэй той сьветлай зоркі — нашае мэты: Бога і Бацькаўшчыны.

А мо' дазволіце нам, Паважаныя Чытачы, у гэтым юбілейным нумары — 100 — глянуць яшчэ раз той зорцы ў вочы, што сваімі раздробленымі праменьмі асьвятляе наш адзіны шлях, хаця да яго вядуць і розныя сьцяжынкі?..

Бог! Вялікі, таёмны, ўсёмагутны, справядлівы, ўсюды-прысутны, хаця і нябачны, Валадар сусьвету, вечны. —

«Я ёсьць, Каторы ёсьць»! — казаў Ён з агнявога куста да Майсея.

Але ці сьцяміў гэта вялікі Майсей?

А чалавек на гэтым сьвеце сяньня ёсьць, а заўтра і сьлед яго зацёрся. Але Бог быў, ёсьць і будзе: ня меў пачатку і вечна той самы — Ён «ёсьць, Каторы ёсьць», бо вечнае трываньне — гэта Ягоная сутнасьць.

О, якая вялікая радасьць ведаць, што існуе хтосьці Вялізны і Нязьменны, хтосьці Шчасьлівы — так, што не маемо страху, што нашае ў Ім шчасьце ня вырвецца з нашых рук, як прыгодная птушка! І гэта Ён Той Усёмагутны, Якога Хрыстос казаў нам называць Айцом.

А якая ёсьць характэрная прыкмета Айца? — Любоў! Айцец любіць дзяцей, а яны таксама любяць бацьку. І нашая вера і надзея прамінуць, а любоў астанецца на заўсёды.

О, якбы мы жадалі распаліць агеньчык гэтае любові ў сэрцах людзей да Нябеснага Айца, да нашых братоў і суродзічаў!

Мы сяньня ведаем, што і тая кропля вады, што ўпала ціханька ў бязмернае мора, а таксама і найменшая атомная пылінка — ня гінуць у сусьвеце! Зьнікаюць для нашага недасканалага вока, але ня гінуць у рэчаіснасьці. — Калі гэта бывае ў мёртвай прыродзе, дык ці-ж можам сумнявацца, што і нябачныя, але часта гераічныя нашыя акты любові да Бога і да нашых братоў, што і яны ня згінуць! Яны могуць — і павінны — стацца Божымі і мы можам быць пэўнымі, што на-

шыя дробныя ўчынкі стануцца вялікімі, шляхотнымі і вечнымі — на Божае падабенства.

Усё людзкое, што асьвячаецца праз акты любові, знаходзіцца на Божым шляху.

А што-ж можа быць больш чалавечае і Божае, як любоў Бацькаўшчыны? Бо мы стуль выйшлі і аб ёй мы лятуцім наяве і ўсьне!

Бацькаўшчына — гэта сьвятое слова — займае некаторым з нас ледзь ня ўсё нашае жыцьце-быцьцё: аб ёй мы думаем, па ёй сумуем, пра яе мы гутарым і пішам.

А яна сама? што нам адкажа ? . .

На вялікі жаль, або маўчыць, як закляты сфінкс, або гамоніць нейкім чужым, незразумелым голасам. — Мы аднак добра ведаем, што Бацькаўшчына сяньня пакутуе і церпіць і што праўдзівага яе голасу мы пачуць ня можам.

Аднак ніколі ў Радзіму, ані ў тых, што змушаны кідаць на нас балотам, (як нас празываюць, у «эміграцыйных бадзякаў»), мы кідаць каменьнем ня будзем! Мы будзем толькі, як і дасюль, старацца дапамагчы нашым братом на Бацькаўшчыне — пераносіць той цяжкі крыж, узложаны на іх конам гісторыі. Мы таксама верым, што ня век-жа мае там уладарыць цемра, жах і крыўда!

«Бязь веры, бяз імкненьняў сэрца —
пусьціня,
адцьвілая зрудзелая, сухая,
дзе ўздыхае
адно бясплодны сухавей . . .»

Узмоцніўшы нашую веру, з палымянай любоўю да Бога і Бацькаўшчыны ўваходзім мы ў Новы, нікому няведамы 1967 Год.

Але ў Божа Імя і Божым шляхам!

---

А. Н.

# Пяць гадоў школы сьв. Кірыла

Школа зьяўляецца ўстановаю, якая расьце вельмі памалу. Ў сапраўднасьці ня можна гаварыць аб ей, як аб нечым закончаным, пакуль першыя пакаленьні ейных гадунцоў ня пойдуць у жыцьцё. Гэтага ня можна яшчэ сказаць аб Школе сьвятога Кірыла Тураўскага ў Лёндане. Тым ня менш, пяць гадоў існаваньня гэтай адзінай свайго роду беларускай установы у вольным сьвеце ёсьць датай вартай таго, каб яе адзначыць хоць у скромны спосаб.

Гісторыя Школы сьвятога Кірыла пачалася ўвосень 1960 году, калі айцы Беларускай Каталіцкай Місіі ў Лёндане, прыехаўшы з Мюнхэну з хіратоніі Яго Дастойнасьці Уладыкі Часлава Сіповіча, даведаліся, што па суседзтву з Марыян Гаўз прадаецца прыгожы і прасторны дом з вялікім садам. Адразу зарадзілася думка, каб купіць гэты дом і залажыць у ім беларускую школу-інтарнат для хлапцоў. Уладыка Часлаў згадзіўся на прапанову і дзякуючы ягоным стараньням дом быў куплены і абсталяваны пад школу. Недалёка ад Марыян Гаўз знайходзіцца камплекс ангельскіх каталіцкіх школаў. Кіраўнікі гэтых школаў згадзіліся ахвотна прыняць беларускіх хлопцаў. Такім чынам справа агульнай асьветы была разьвязана памысна. У самой Школе сьв. Кірыла вучні мелі атрымоўваць дадатковыя лекцыі з беларускай мовы, літаратуры і гісторыі, а таксама дапамогу і нагляд у ўсіх іншых прадметах навучаньня.

У верасьні 1961 году Школа сьв. Кірыла пачала свой першы навучальны год з лікам . . . чатырох вучняў. Адразу выявіліся цяжкасьці. З чатырох вучняў толькі адзін умеў гаварыць па беларуску, адзін гаварыў толькі па ангельску, а двух іншых — толькі па нямецку. Такім чынам гэтых апошніх трэба было адразу навучаць двух моваў — беларускай і ангельскай, — і было толькі няведама, на якую рабіць больш націск. Адчуваўся таксама недахоп навуковых дапаможнікаў. Існуючыя падручнікі беларускай мовы былі прызначаныя для дзяцей, якія гавораць па беларуску і таму яны аказаліся няпрыдатнымі ў даным выпадку. Прыходзілася самім тварыць усё ад пачатку і шукаць адпаведных мэтадаў. Праца была цяжкая, але яна прынесла ня менш карысьці самім настаўнікам, чым вучням. Айцец Леў Гарошка, які на самым пачатку практычна кіраваў школаю і быў першым настаўнікам беларускай мовы, меў над чым паламаць галаву . . .

У кожнай школе-інтарнаце вельмі важнай ёсьць гаспадыня, якая ня толькі глядзіць за тым, каб вучні былі сытыя, адзетыя і чыстыя, але таксама заступае матку, асабліва для малодшых дзяцей. Для Школы сьв. Кірыла была патрэбная гаспадыня-беларуска. Нажаль яе знайсьці ня было так лёгка. Першая гаспадыня, беларуска, сп-ня Равенская, з прычыны веку знайшла свае абавязкі збыт цяжкім і павінна была зрачыся пасьля некалькі месяцаў. Пошукі іншай беларускі на яе месца не далі жаданых вынікаў і прыш-

лося ўзяць на гаспадыню сп-шню Л. Паранд. Гэта была эстонка і яна аказалася добрай гаспадыняй і ляяльнай да беларусаў, аднак, ня ведаючы беларускай мовы, гутарыла з хлопцамі па ангельску і таму беларускае ўзгадаваньне вучняў на гэтым цярпела. Толькі ў 1965 годзе наканец школа мела шчасьце здабыць сабе беларускую гаспадыню. Зьяўляецца ёю сп-ня Алена Міхалюк і кіраўніцтва і ўсе вучні школы маюць толькі адно жаданьне, каб яна магла астацца на гэтым становішчы на доўгія годы.



*Школа сьв. Кірыла Тураўскага ў Лёндане. Агульны выгляд з вуліцы.*

У пачатку 1962-га году вярнуўся з Амэрыкі а. Язэп Гэрмановіч і абняў становішча кіраўніка Школы, прыносячы з сабою багацьце шматгадовага настаўніцкага і ўзгадаваўчага дасьведчаньня. Восеньню тога году прыехаў у Лёндан а. Аляксандар Надсон і быў назначаны на становішча заступніка кіраўніка і адміністратара. З часам ён пераняў кіраваньне навучаньнем беларускай мовы. У тым самым часе школа атрымала яшчэ вялікую дапамогу ў асобе сп. Г. Пікарды, ангельскага прыяцеля беларусаў і знаўцы беларускай царкоўнай музыкі. Спадар Пікарда згадзіўся быць настаўнікам музыкі ў школе. Дзякуючы ягонай самаахвярнай працы, хор Школы сьв. Кірыла сяньня ёсьць добра ведамы беларускаму грамадзтву ў Лёндане. Яго можна пачуць кожную нядзелю ў царкве сьв. Пятра і Паула ў Марыян Гаўз. Няраз ён таксама выступаў на розных нацыянальных урачыстасьцях, або ладзячы канцэрты ў школе.

Наагул мастацкая самадзейнасьць пачала адыгрываць паважную ролю ў жыцьці школы. Хутка пасьля хору паўстаў аркестр. Пачаліся арганізавацца драматычныя пастаноўкі. Школьная ялінка і канцэрт у канцы школьнага году ўвайшлі ужо ў традыцыю і цешацца заслужанай папулярнасьцю сярод беларусаў і ангельскіх прыяцеляў у Лёндане. Аднак школа ёсьць школаю і вонкавыя выступленьні займаюць вельмі агранічанае месца ў ейным жыцьці. Большасьць часу хлопцы праводзяць між сабою, у сваёй «сям'і». Гэта адносіцца аднолькава да працы і да адпачынку. Тут таксама вырабілася свая традыцыя. Да яе належаць Купальскі вечар і вогнішча на пачатку школьнага году. Традыцыйнымі зьяўляюцца экскурсіі па Лёндане і ваколіцах, якія ладзяцца кожную чвэрць.

Гаворачы аб экскурсіях неабходна успомніць аб экскурсіі у Нямеччыну летам 1964 г., і аб паездцы у Рым увосень 1965 г., куды хлопцаў запрасіў Уладыка Часлаў. Аб гэтай апошняй экскурсіі вучні яшчэ ня могуць забыцца.

З ростам школы першапачатковы будынак аказаўся за малы і ў 1965 годзе ўдалося купіць суседні дом, таксама вялікі, як і першы і з вялікім гародам. Такім чынам умовы жыцьця яшчэ палепшалі. Цяпер школа мае месца на 20 вучняў. Ёсьць вялікая сталоўка, сьветлыя клясы і надзвычай прыгожая і прасторная саля да гульняў, якая ператвараецца ў разе патрэбы ў тэатр. Вялікія гароды пры школе і Марыян Гаўз даюць магчымасьць для адпачынку і гульняў.



Летам 1964 году ў школе сьв. Кірыла была зарганізаваная летняя калёнія для дзяцей.

Калёнія была прызначаная у першую чаргу для беларускіх дзяўчат, каб даць ім магчымасьць хоць праз кароткі час пажыць у беларускай атмасфэры.

Другая падобная калёнія адбылася летам 1965 году. Абедзьве калёніі ўдаваліся вельмі добра і Школа мае на думцы арганізаваць іх у будучыні.

Амаль ад самага пачатку ў школе пачаўся збор старых беларускіх мапаў і друкаў. Асабліва шмат спрычыніліся ў гэтай галіне Уладыка Часлаў і Сп. Г. Пікарда. Цяпер ужо школа мае досыць вялікую і цэнную калекцыю мапаў і гравюраў з 16—18 стагодзьдзяў. Ёсьць там таксама нямала твораў сучасных беларускіх мастакоў. Апошнім часам паўстала думка сабраць у адно месца ўсе гістарычныя, мастацкія і этнаграфічныя цэннасьці, цэннасьці, якія знайходзяцца ў школе і ў Марыяна Гаўз, і стварыць маленькі беларускі музэй. Справа гэтая стаіць на добрай дарозе.

У чэрвені 1966 году Школа магла пахваліцца сваім першым посьпехам: першы з ейных вучняў, здаў матуру з беларускай мовы на Лёнданскім Унівэрсытэце. Адзін кандыдат рыхтуецца ў гэтым годзе, а ў будучыні школа мае надзею рыхтаваць да матуры кожны год па два-тры кандыдаты.

У верасьні 1966 году а. Язэп Гэрмановіч, які праз амаль усе пяць першых гадоў кіраваў школай, папрасіў звольніць яго з становішча кіраўніка. На ягонае месца Уладыка Часлаў назначыў а. Аляксандра Надсона. Айцец Гэрмановіч астаўся надалей у школе ў



якасьці духоўнага настаўніка. Прыбылі таксама новыя сілы. Ад студзеня 1967 г. у школе працуе новы беларускі сьвятар а. Рабэрт Тамушанскі, які займае там становішча заступніка кіраўніка. Яшчэ раней пачаў настаўніцкую працу у школе а. Фэлікс Журня, беларускі Марыянін, які летам мінулага году прыехаў з Польшчы ў Англію. Школа мае цяпер 14 вучняў.

Такім чынам Школа сьв. Кірыла распачала свой шосты навучальны год з узмоцненымі настаўніцкімі сіламі, не кажучы ўжо аб цэнным дасьведчаньні здабытым на працягу мінулых пяці гадоў.



Гледзячы на пройдзены шлях, можна быць задаволеным як з росту школы, так і з вынікаў асягнутых у галіне навукі і агульнага і беларускага ўзгадаваньня. Без сумніву, у першых гадах было шмат недахопаў і памылак, але гэтага трэба было спадзявацца, бо праца была новая і настаўнікам прыходзілася быць піянерамі. Трэба тут сказаць некалькі словаў прызнаньня бацьком першых вучняў за тое, што ў цяжкія хвіліны выпрабаваньня яны ня ўсумніліся, але далі школе сваю поўную маральную падтрымку. Думаецца, што цяпер яны ня маюць прычыны шкадаваць гэтага.

На працягу ўсяго свайго існаваньня Школа сьв. Кірыла была прадметам сталага зацікаўленьня з боку ейнага закладчыка, Уладыкі Часлава Сіповіча. Здабыла яна сабе таксама нямала шчырых прыяцеляў як сярод беларусаў, так і сярод прыхільных нам чужынцаў. Лік гэтых прыяцеляў расьце і разам з імі расьце маральная і матар'яльная падтрымка. Маральная падтрымка ёсьць патрэбная ўжо хоць-бы для таго, каб вучні не адчувалі сябе адарванай групкай, але часткай большага цэлага. Некалькі слоў асобна трэба сказаць аб матар'яльнай падтрымцы. Утрыманьне прыватнай школы ў сяньняшні дзень зьяўляецца вельмі каштоўнай справай. Гадавыя выдаткі на Школу сьвятога Кірыла ў цяперашнім яе

стане выносяць каля 4.000 ангельскіх фунтаў (12.000 даляраў) на год. Крыху больш, чым адну трэцюю частку гэтай сумы пакрываюць бацькі вучняў. Рэшта выдаткаў пакрываецца з дапамогаў і прыватных ахвяраў. Да гэтага часу ахвярнасьць шматлікіх адзінак была вялікая. Трэба спадзявацца, што яна павялічыцца ў будучыні, асабліва сярод тых, якім ляжыць на сэрцы узгадаваньне маладога беларускага пакаленьня.

Школа сьвятога Кірыла разам з Марыян Гаўз зьяўляюцца адзіным свайго роду беларускім асяродкам, дзе жыве разам пару дзесяткаў беларусаў — сьвецкіх і сьвятароў. Тут чуецца ўсьцяж беларуская мова, тут кожны дзень моляцца ў царкве пабеларуску і за Беларусь; тут ёсьць беларуская бібліятэка і выдаецца беларускі часапіс; тут спатыкаюцца людзі розных нацыянальнасьцяў, якія цікавяцца беларускай справай . . . Вучні Школы сьв. Кірыла прыехалі з розных краінаў (цяпер там ёсьць хлопцы з Англіі, Бэльгіі, Францыі і Нямеччыны) і належаць да розных веравызнаньняў (каталікі, праваслаўныя і пратэстанты). Пры ўсей гэтай разнастайнасьці яны ня могуць не адчуваць, што адзіная рэч, якая іх лучыць — гэта іхняе беларускае паходжаньне. З другой стараны гэтая самая разнастайнасьць зьяўляецца добрай асновай да разьвіцьця шырыні поглядаў, таленранцыі і зразуменьня адзін другога. Калі дадаць да таго, што тут існуюць магчымасьці здабыцьця добрай агульнай асьветы, дык будзе відаць, што ў школе існуюць усе ўмовы для ўзгадаваньня поўнавартасных людзей і шчырых беларусаў. Будучыня пакажа, ці ўдасца Школе зьдзейсьніць гэтую мэту.

## АБВЕСТКА

**Беларуская Школа-Інтарнат для хлапцоў імя сьвятога Кірыла Тураўскага ў Лёндане распачала прыём кандыдатаў на новы 1967—1968 навучальны год. У школу прымаюцца сыны беларускіх бацькоў у веку ад 8 да 11 гадоў.**

**Лік вольных месцаў у школе ёсьць агранічаны і таму бацькі якія жадалі-бы прысьлаць туды свайго сына, павінны ў сваім собскім інтарэсе напісаць аб гэтым кіраўніку школы ў як найхутчэйшым часе. Тэрмін складаньня заяваў канчаецца 31-га траўня для кандыдатаў з Англіі і 30 красавіка для кандыдатаў з іншых краінаў. Усе заявы будуць разглядацца ў парадку іхняга атрыманьня.**

**У ўсіх справах зьвязаных з Школаю трэба пісаць на наступны адрас:**

**The Rev. Headmaster**
**St. Cyril's House,**
**41 Holden Road,**
**London, N. 12.**

# РАБЭРТ ТАМУШАНСКІ — СЬВЯТАР



Кароткая біяграфія: нарадзіўся дня 3. VII. 1940 г. ў Port Chester, N. Y. і там ахрышчаны у царкве „Our Lady of Mercy“ недалёка Нью Ёрку. Бацька Язэп – Юры Патры-Тамушанскі (Беларус), Матка Анна-Маргарэта Rüth (Нямецка-француская паходжаньня). Рабэрт мае аднаго брата малодшага ад сябе.

Вучыўся Рабэрт у пачатковай школе ад 1945 да 1952. Тады ўступіў у сярэднюю дзяржаўную, але ў 1954 перайшоў у каталіцкую і здаў матуру ў 1958. – Хадзілі маліцца ў каталіцкі касьцёл і ў уніяцкую царкву украінцаў.

16-ці гадоў быў ужо сьведамым беларусам і традыцыйна (па дзядох, якія былі ўніяцкага паходжаньня) быў сьведамым грэка-каталіком. У часе сярэдня-школьным глыбей пазнаў гісторыю Ўсходняе Эўропы, а між іншым беларускага народу.

Пасьля эгзамену на матуру, пачуўшы Божы покліч, уступіў 15 VIII. 1958 г. у манастыр аа. Базыліянаў-украінцаў у Glen Cove, New York, дзе адправіў двухгадовы навіцыят. Пасьля першых законных шлюбоў у 1960 выехаў у Канаду і адзін год пражыў у Мундэр (манастыр у Альбэрта): там студыяваў гісторыю і стара-славянскую мову пад кіравецтвам вельмі сымпатычнага а. Д. Паповіча.

У верасьні 1961 ўступіў на філязофію на ўнівэрсытэт гор. Оттава. Спачатку жыў у французкай духоўнай сэмінарыі, а пасьля аа. Базыліяны здабылі там свой дом для студэнтаў.

У 1963 на пачатку школьнага году не аднавіў законных шлюбоў з прычыны слабага здароўя, дык трэба было выйсьці з манастырскага памешканьня. Тады перанёсся ў дом францускіх манахаў-аблятаў у Оттаве і далей вучыўся ў тым самым унівэрсытэце. Памагаў з сваей добрай ласкі а. Фр. Чарняўскі.

У кастрычніку 1963 Ўладыка Чэслаў Сіповіч прыняў студэнта Тамушанскага пад сваю апеку.

У маі 1964 апошні эгзамін у Оттаве, затым пераезд у Эўропу, каб далей студыяваць тэалёгію (багаслоўе) ў Нямеччыне (гор. Кенігштайн), у духоўнай сэмінарыі.

21. III. 1965 пасьвячаны на лектара і іподыякана ў Марыян Гаузе у Лёндане.

31. X. 1965 пасьвячаны на дыякана ў Рыме.

3. XII. 1966 рукапалажэньне на сьвятара ў Кенігштайн.

*

Рукапалажэньне на сьвятара ёсьць сьвятым вялікім актам: быццам ніколі не блякнучы стамп астаецца ў душы чалавека. Адначасна гэта грамадзкая падзея, бо на вачох усіх вернікаў выбраная Богам адзінка прызначаецца на служэньне людзям.

Таму нічога дзіўнага, што рукапалажэньне адбываецца вельмі ўрачыста.

Н а ш а г а айца Рабэрта рукапалажыў н а ш Біскуп Ч. Сіповіч. — Падкрэсьліваем слова «н а ш», бо тыя часы, калі беларускія біскупы рукапалагалі беларускіх сьвятароў у Каталіцкай Царкве, належаць — на вялікі жаль — да далёкай мінуўшчыны.

Рукапалажэньне адбылося ў царкве ў Кенігштайн у прысутнасьці Яго Дастойнасьці Біскупа Кіндэрмана, рэктара і прафэсараў сэмінарыі. Зь Яго Дастойнасьцяй Біскупам Чэславам саслужылі Сьв. Літургію Архімандрыт Леў Гарошка, пралат Ул. Салавей, праф. д-р І. Шультц, д-р А. Гампэль і а. Папэ. Казаньне гаварыў а. Рік фан Дун, з закону Айцоў Аблятаў. Прыгожа сьпяваў хор студэнтаў у часе Літургіі, асабліва ўканцы, калі стройна прагрымела нашае «Магутны Божа!»

Пасьля Сьв. Літургіі ў залі сэмінарыі, упрыгожанай краскамі, адбылася вячэра. Сабралася каля 200 гасьцей, сярод якіх шмат сваякоў айца Рабэрта. Першы прамоўца быў Біскуп Кіндэрман, а гаварыў шчыра, з агнём! Немагчыма забыцца ягоных слоў: «Беларуская Царква сяньня ў вялікай патрэбе і мы павінны ёй памагчы!»

Не адзін раз беларусы мелі нагоду слухаць прамовы гэтага вялікага нямецкага дзеяча, які горад Кенігштайн ператварыў у сапраўдную духовую крэпасьць, але гэтым разам мы мелі наяўны доказ — і ў словах і ў справе — яго адносінаў да беларусаў. Некалькі гадоў а. Рабэрт вучыўся ў тутэйшай сэмінарыі бясплатна, а сяньня ўрачыстасьць была быццам увянчаньнем ягонай працавітасьці і нямецкае дабрадзейнасьці.



Апрача Б-па Кіндэрмана шчыра віталі новага сьвятара рэктар д-р Крушына, пасьля адзін зь яго сяброў і сп. Ч. Кукель — ад беларускага грамадзтва і Бп. Ч. Сіповіч. Урэшце ўсім ветліва адказаў а. Рабэрт.

У сваей прамове а. Рабэрт шчыра прызнаўся, што радзіўшыся на чужыне меў вялізарныя цяжкасьці знайсьці шлях да свайго народу, а таксама памысна закончыць студыі. Ён мусіў вучыцца нятолькі розных чужых моваў, але і сваёй беларускай, якую заглушалі ўсьцяж няспрыяльныя эміграцкія абставіны.



На другі дзень пасьля рукапалажэньня а. Рабэрт Тамушанскі адправіў першую Сьв. Літургію ў Кенігштайн. Асыставаў яму а. Архім. Леў Гарошка. Была нядзеля і царква зноў была напоўнена вернікамі. — Крыху змучаны, але радасны душою, прыносіў Богу першую някрывавую ахвяру за сваіх бацькоў, за добрадзеяў, за свой прасьледаваны народ.

Рэдакцыя «Божым Шляхам» нова-пастаўленаму сьвятару, свайму прыяцелю і супрацоўніку, шле найшчырэйшыя пажаданьні: здароўя, памыснасьці і посьпеху ў добрых справах — на МНОГАЯ ЛЕТА!



## МАЛІТВА АБ ДОБРЫХ СЬВЯТАРОХ

Прадвечны Божа, узглянь на наш народ і дай яму ў кожным пакаленьні сьвятароў сьвятых і поўных Твайго Духа — пастыраў і настаўнікаў Твайго Закону. — Падай, Божа, сьвятаром сваю ласку: ніколі не баяцца ніякае ахвярнасьці для Твае славы і для дабра Народу.

Багаслаўі іх працу і добрыя намеры. Захавай іх ад усякага ліха, перадусім ад сьмяротнага граху. І злучы іх Тваёю ласкаю, каб былі адно ў любові, як Ты, Ойча, з Сынам і Сьвятым Духам — на векі вечныя. Амін.

**Я. С.**

# Весткі з царкоўнага жыцьця

Папа Рымскі Павал VI дабіўся ад ваюючых у Вьетнаме замірэньня на Каляды і на Новы Год — па двое сутак, а таксама і на буддыйскі Новы Год. — Пры гэтым Павал VI апэляваў да ваюючых, каб не баяліся працягнуць замірэньне аж да перамоваў аб міры. Аднак абодвы бакі наўзаем вінавацяць праціўнікаў, што перарыў вайны ня быў належна захаваны і адразу перарвалі супакой на фроньце, пачаўшы яшчэ больш жорсткую вайну

Папа моцна заклікае і ваюючых і наагул цэлы сьвет, каб супольнымі сіламі судзейнічаць да агульнае згоды сьвету і каб не раздзьмухіваць агню нязгоды і ня выклікаць закалоту зь небасьпекай згубы ўсяго людзкога роду на плянэце.

Не для таго Бог даў людзям розум, каб паддаваліся запальчывасьці і прычынялі няшчасьце сабе і другім!

*

РЫМ. Больш як 400 гадоў трывала змаганьне між Каталіцкаю і Англіканскаю Цэрквамі: Англія мела цьвёрды намер вынішчыць каталіцтва, дык пралілося нямала крыві, пакуль ступілася аружжа Брытанскае імпэрыі!

Ведама, што ў мінулым годзе прымас Англіканскае Царквы прыяжджаў у Рым-Ватыкан пагаманіць аб канчатковай угодзе: тады была абгаворана справа супольнае камісіі-групы тэалёгаў (багасловаў) з абодвых бакоў і неадкладна такая група была створана, і цяпер у Італіі, недалёка Рыму, зьехаліся 10 тэалёгаў каталіцкіх і 11 — англіканскіх (у гарадку Зарэзэ, бо кардынал Бэа ня любіць Рыму).

На чале кат. групы стаіць біскуп Віллебрант з Галяндыі, а на чале англ. біскуп Моорман. Вельмі важнае значэньне мае тое, што ў англ. групе знайшліся дэлегаты тэалёгаў — біскупы з Валіі, Прэторыі (Паўдзённая Афрыка) і Цэйлёну, а таксама і тэалёгі брытыйскія, амэрыканскія і канадыйскія.

*

ВАТЫКАН: Павал VI прыняў на аўдыенцыі 15 бонзаў буддыйскіх з Японіі: у сваей прамове Папа заклікаў буддыйскую царкву да супрацоўніцтва з каталікамі ў справе супакою ўва ўсім сьвеце.

*

РЫМ: Адбыўся тут Кангрэс у справе турыстых, якіх Італія прыймае найбольш з усіх краёў сьвету. Біскупы, духавенства і сьвецкія каталікі, разважалі справу духоўнае апекі над турыстамі, каб — апрача помачы матар'яльнае — яны не аставаліся занядбаныя Царквою. Трэба ім даваць магчымасьць Божае Службы і сакрамантаў, казаньняў і духоўных лекцыяў; патрэба назначаць спэцыяльных капэлянаў, асобныя набажэнствы ў народных мовах і даваць належныя для турыстаў інфармацыі ў іх духоўных патрэбах.

*

ІНДЫЯ: Вялізнае няшчасьце — «сьвятыя» каровы! Голад, які пануе ў Індыі, ня можа быць апанаваны, пакуль збожжа ідзе на корм сьвятых кароў, пацукоў і малпаў. Фанатыкі-манахі індуізму і іншых паганскіх рэлігіяў бунтуюць цёмны народ супраць дзяржавы, якая загадвае рэзаць кароў і забіваць пацукоў і малпаў, бо манахі вучаць, што людзкія душы перасяляюцца ў жывёлу... Значыць — па іхнаму — сьмерць «сьвятой» каровы роўна забойству чалавека (?). І калі карова ляжа сярод гарадзкой вуліцы, дык машыны мусяць затрымлівацца. — А бунт фанатыкаў даводзіць да крывавых інцыдэнтаў.

*

НЬЮ ЁРК — ФОРДГАМ унівэрсытэт: У гэтым ведамым унівэрсытэце на факультэце тэалёгіі будзе чытаць лекцыі рабін — д-р Ірвін Блянк: ён будзе выкладаць гісторыю юдаізму, аб Талмудзе і інш. — Гэта ёсьць першы выпадак, што рабін выступае як прафэсар у каталіцкай вышэйшай школе, але новы дух экумэнізму вымагае і такіх экспэрымэнтаў!

*

ГРЭЦЫЯ: Правасл. Царква абыходзіла ўрачыста 1100-годзьдзе Сьв. Кірыла і Мяфода: былі прадстаўнікі ўсяго праваслаўя, ад пратстантаў, а таксама і ад каталікоў. Гэта вельмі важнае здарэньне, што грэцкі мітрапаліт Хрызастом, які дасюль быў найбольшым праціўнікам лучнасьці з Ватыканам, запрасіў каталіцкую дэлегацыю і гасьціў яе вельмі ласкава.

*

КАНСТАНТЫНОПАЛЬ: Патрыярх Атэнагорас перажывае вялізныя цяжкасьці і націск турэцкага ўраду. Туркі прымушаюць Патрыярха выехаць і прычыняюць яму розныя прыкрасьці: між іншымі, зачынілі ягоны тыднёвік «Сьв. Андрэй Апостал», а таксама месячнік «Ортодоксія» і нават адабралі друкарню! Перашкаджаюць Патрыярху ў камунікацыі з япіскапамі і духавенствам заграінчным, а ў 1964 выселілі двух мітрапалітаў, што належылі да патрыяршага Сыноду.

Папа Павал VI склаў востры пратэст супраць прасьледу і намеру высяленьня Патрыярха. таксама англікане і пратэстанты пасылалі

сваё пратэсты, а нават і ўрады Эўропы і Амэрыкі выступалі ў абароне.

*

БІБЛІЯ: Ува ўсім сьвеце відаць агульны паварот да Сьвятога Пісьма: множацца папулярныя пераклады і танныя выдавецтвы, каб кажны мог лёгка дастаць Біблію ў аднэй кнізе. Таму друкуецца на тонкай паперы, але моцнай і прыгожай, друк сярэдні і ясны: выясьненьні і камантары даюцца кароткія і неабходныя.

*

БІБЛІЯ-КНІГА набрала большае пашаны: яе выносяць урачыста падчас набажэнства, а ў некаторых краёх Біблію носяць у працэсіі і зь яе чытаюць часткі для размышленьня, выясьняюць у казаньнях, паказваюць у фільмах і ўсюды Біблія выклікае надта жывое зацікаўленьне.

У некаторых цэнтрах ствараюцца супольныя таварыствы (каталікоў з пратэстантамі і нават з жыдамі) для студыяў Бібліі, каб як найлепш даканаць перакладу із старых аўтэнтычных тэкстаў. — Так увесь сьвет бачыць у Бібліі сапраўднае Божае слова.

Аднак толькі Царква мае права і абавязак выясьняць Сьвятое Пісьмо, бо ёсьць у ім нямала месцаў незразумелых, дый нельга так думаць, як хочуць некаторыя лібэралы і пратэстанты, што «Дух Сьвяты кажнаму дае сваё сьвятло»: так паўстае гэтулькі цэркваў, колькі галоў і так пратэстанства разьбілася на соткі частак. А Хрыстос сказаў апосталам: «Хто вас слухае, Мяне слухае», значыць, трэба слухаць Хрыстовай Апостальскай улады Царквы.

## *З беларускага жыцьця*

### ЗАКАНЧЭНЬНЕ КУРСУ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Годным заканчэньнем курсу гісторыі беларускай культуры, які адбыўся ў Лёндане восеньню мінулага году з ініцыятывы Ангельска-Беларускага Таварыства, было прыняцьце ладжанае сп-няй К. МакМільлян у сераду 14-га сьнежня. Сп-ня МакМільлян зьяўляецца заступнікам старшыні Ангельска-Беларускага Таварыства.

На прыняцьці былі Лёрд Гарлех з жонкаю і Лёрд Ст. Освальд. З прадстаўнікоў ангельскага навуковага сьвету там былі праф. Оты з Оксфарду, праф. Сэтон-Уотсон і праф. Лямбдон з Лёндану, канонік Суіны, рэктар «Ст. Эдмунд Гаўз» у Кэмбрыдж і кіраўнік славянскага аддзелу Брытанскага Музэю сп. Фульфорд.

З беларусаў былі прысутныя Яго Дастойнасьць Уладыка Часлаў Сіповіч, Архімандрыт Леў Гарошка, старшыня ЗБВБ Сп. П. Навара з жонкаю і шмат іншых.

Выкладчыкі курсу, сп. Г. Пікарда, сп. А. МакМільлян і а. А. Надсон былі таксама сярод прысутных гасьцей.

Ангельскія газэты «Дзэ Таймс» і «Дэйлі Тэлеграф» замясьцілі зацемкі аб прыняцьці.

### ПЕРШАЯ СЬВ. ЛІТУРГІЯ Ў ЛЁНДАНЕ НОВАГА БЕЛАРУСКАГА СЬВЯТАРА

Айцец Рабэрт Патры-Тамушанскі, які атрымаў сьвятарскія сьвячаньні 3-га сьнежня ў Кэніґштайне, служыў сваю першую сьв. Літургію ў беларускай царкве сьв. Пятра і Паўла ў Лёндане ў нядзелю 18-га сьнежня. Царква была запоўненая беларусамі і ангельскімі прыяцелямі, некаторыя з якіх прыехалі здалёку на гэтую ўрачыстасьць.

Айцец Архімандрыт Леў Гарошка сказаў пры гэтай нагодзе надзвычай прыгожае казаньне, у якім ён гаварыў аб значэньні сьвятарства.

Сьпяваў хор Школы сьв. Кірыла пад кіраўніцтвам сп. Г. Пікарды. Пасьля сьв. Літургіі вучні школы сьв. Кірыла прасьпявалі новаму сьвятару «мнагалецьце» і далі яму скромны падарак.

### ЯЛІНКА Ў ШКОЛЕ СЬВ. КІРЫЛА

Традыцыйная ялінка ў школе сьв. Кірыла адбылася ў нядзелю 18-га сьнежня пасьля абеду. Як пад узглядам ліку прысутных так і з боку праграмы, яе трэба лічыць найбольш удалай з усіх да гэтага часу ладжаных ялінак. Прысутных было так шмат, што прасторная школьная заля ледзь зьмясьціла ўсіх. Акрамя шматлікіх беларускіх сем'яў з дзецьмі было таксама нямала ангельскіх прыяцеляў.

Галоўнай часткай праграмы была пастаноўка традыцыйнай беларускай батлейкі «Цар Ірад» з зьменамі і прыстасаваньнямі згодна з мясцовымі вымогамі і магчымасьцямі. Як сама пастаноўка, так і ігра маладых артыстаў вызвалі захапленьне з боку гледачоў, асабліва маладых... Усе касьцюмы і дэкарацыі былі зробленыя самімі вучнямі. Акрамя батлейкі ў праграме былі: тэатр ценяў, багатая праграма калядак, аркестра і, безумоўна, дзед мароз, які раздаваў падаркі, кажнаму паводле ягоных заслугаў...

Вечар скончыўся скромным прыняцьцем для ўсіх гасьцей.

# Вестki з радыё «Свабода»

## АТЭІЗМ І СВАБОДА РЭЛІГІІ

Ведама ўжо на цэлым сьвеце, што беларускія камуністы перавысілі ў атэізьме самых заўзятых бязбожнікаў Савецкага Саюзу: сьлепа слухаюць дырэктываў Масквы, нават яшчэ становяцца большымі тыранамі, чым верхаводы маскоўскага цэнтру! Паўтараюць сказы Маркса і Леніна.

Тымчасам сам бязбожны Ленін запісаў наступнае: (Цытуем з 4-га выданьня твораў Леніна — том 6-ы, балона 366):

»Кожны павінен мець поўную свабоду ня толькі трымацца якое хаця веры, але й пашыраць хоць-якую веру й зьменьваць веру. Ніводзін чыноўнік не павінен навет мець права пытацца каго-б там ні было аб веру: гэта справа сумленьня, і ніхто тут ня сьмее ўмешвацца».

З гэтага бачым, што цяпер і самога Леніна пераіначваюць і ня ўважаюць! А тых камуністаў, якія дамагаюцца *сапраўднай камуны*, пасылаюць у турмы і лягеры, як бунтаўшчыкоў супраць лініі партыі.

Гавораць: «Праўдзівага атэізму ня можа быць там, дзе няма поўнае свабоды рэлігіі».

Пытаемся: «Які-ж тады атэізм практыкуецца ў Савецкім Саюзе?»

Адкажам: «Там няма сапраўднага атэізму, але ўкараніўся глыбокі *кар'ерызм!*» Каб запанаваў турэцкі султан, дык самыя зацятыя атэісты — агітатары, лектары і кандыдаты філязофіі — ахвотна паверылі-б у Магамэта і пабралі-б па 4-ы жонкі! — Словам, пайшлі-б па *«лініі»* новай і ўрадовай . . .

## КАЛЯДНЫЯ СЬВЯТКАВАНЬНІ Ў БЕЛАРУСКІХ АСЯРОДКАХ

Беларускае грамадзтва на чужыне захоўвае пахвальную традыцыю супольнага сьвяткаваньня Калядаў.

У Парыжы Каляды сьвяткаваліся разам у памешканьні Бел. Кат. Місіі на рю Гравіер. Раніцай а. Архімандрыт Леў адслужыў сьв. Літургію, а пасьля абеду адбылося прыняцьце.

У Лёндане Калядні вачер, ладжаны Лёнданскім Аддзелам ЗБВБ адбыўся ў сыботу 7-га студзеня ў Беларускім Доме. У Брадфардзе Супольнае сьвяткаваньне Каляд адбылося ў нядзелю 8-га студзеня. Раніцай а. Я. Абабурка адслужыў сьв. Літургію, а пасьля абеду адбылася супольная вячэра.

## ВІЛЬНЯ ДАЎНЕЙ І ЦЯПЕР

Вільня была сталіцай Вялікага Княства Літоўскага, асноўнае ядро якога складаў беларускі народ. Белар. народ даў Вялікаму Княству Літоўскаму сваю высока разьвітую культуру, сваю мову, як дзяржаўную, быў суб'ектам, а не аб'ектам гэтае супольнае зь літоўскім і украінскім народамі дзяржавы, і ўважаў яе за сваю, а ня чужую дзяржаву. У Вільні пачалася ў 1525 г. культурная й друкарская дзейнасьць Пр. Скарыны, што праменяла адсюль на ўсю Усходнюю Эўропу. — Белар. рэнэсанс. гуманізм, рэфармацыя разыходзіліся зь Вільні і сягалі далёка за межы Беларусі.

Калі-ж у XIX ст. пачалося белар. нацыянальнае адраджэньне, Вільня сталася ягоным цэнтрам . . . Тут 60 год таму пачала выходзіць першая белар. газэта «Наша Доля», а за ёй «Наша Ніва» . . .

Цяпер усё гэта спынена: няма ў Вільні ні беларускіх школаў, газэт, арганізацыяў і установаў. Дый Беларускі Музэй распылены між іншымі музэямі Летувы. — Так праводзіцца славутая камуністычная «Дружба Народаў» . . .

*

Аб *Дзіцячай Літаратуры:* Праўда, пакрысе разьвіваецца, але так як дзіця, якое, маючы 10 год, выглядае на 3! — Гэтая Літаратура «няцікавая, павярхоўная, прымітыўная» і друкуецца ў колькасьці ледзь упалавіну расейскай, бо Масква стараецца скарэй нашую моладзь перафасоніць.

*

*Беларускі Унівэрсытэт* у Менску быў беларускім ад 1918 г. да 1930: «пасьля яго Сталін зрабіў ,расейскім', хоць носіць старую назву «беларускага».

«Прафэсары, дацэнты. асыстэнты беларускага паходжаньня былі арыштаваныя бадай усе бяз вынятку». А студэнты пераважна пайшлі ў ссылку . . .

*

*«Беларуска-польская Дружба»:* у Менску купіш польскую кніжку, а ў Варшаве беларускае не дастанеш нідзе!

У Польшчы ў Беласточчыне сотні тысяч беларусаў: маюць свае школы, газэту, арганізацыі, але ў БССР аб іх ня пішуць, ня ўспамінаюць. На зьезьдзе пісьменьнікаў Беларусі ня было ні аднаго прадстаўніка з Польшчы і наагул аб беларусах пад Польшчай і іх працы ніхто ня ўспомніў.

## 25-ЫЯ ЎГОДКІ СЬМЕРЦІ ЗЬМІТРАКА БЯДУЛІ

3-га лістапада 1941 году памёр З. Бядуля, беларускі пісьменьнік і паэт. Паходзіў з жыдоўскага народу, называўся Шмуль Плаўнік, але пісаў пад псэўдонімамі Змітрок Бядуля і Ясакар. Пачаў пісаць у «Нашай Ніве» ў Вільні і адразу заняў адно з найбольш выдатных месцаў у белар. літаратуры. Тэмай ягоных твораў была беларуская вёска, духовы сьвет людзей, беларуская фантастыка і народная міталёгія. Беларусь уяўляецца паэту нейкім надземным царствам жыватворнага руху мастацтва.

Савецкая крытыка аднеслася да Бядулі вельмі несправядліва, нацягіваючы і фальшуючы ягоныя творы, надаючы ім партыйны характар, высновы спрошчаныя і няправільныя.

*

## САВЕЦКІ «КАСТРЫЧНІК» І РАБОТНІКІ

Добра, што Саветы стаяць за работнікаў: шануюць працу і разьвіваюць у Беларусі прамысловасьць. — Аднак не шануюць самых работнікаў і націскаюць усьцяж на прадукцыйнасьць работы: усякімі спосабамі — нагародамі і карамі — выціскаецца з работніка апошні дух. Нават прафсаюзы, якія павінны бараніць працаўнікоў, памагаюць ціснуць іх і паганяць да працы. — Гэтак нават найлепшая праца становіцца нялюбай і пракляцьцем чалавека: выклікае зморанасьць і абрыджэньне.

## КУПАЛА: АБ НАШАЙ ПЕСЬНІ

*«А ты, змарнелы чалавек,*
*Нікчэмны пасынак былога,*
*Сваю пушчаеш песьню ў зьдзек,*
*Чужою славіш нават Бога!»*

*«Прывучан кланяцца, ўніжацца,*
*Паганіш скарб свой дарагі.*
*І знаеш толькі там сьмяяцца,*
*Дзе кроўю плакаў-бы другі ...»*

Так моцна і пранікліва-балюча гамоніць і прамаўляе да цьвёрдых сэрцаў свайго люду наш нацыянальны геніяльны паэта, Янка Купала — ў абароне роднае песьні!

Якое шчасьце, што на гэтае цяпер зьвярнулі ўвагу нашыя песьняры і пісьменьнікі — ратаваць ад згубы народную песьню... Бо што дзеецца? Бо доля яе «сумная, крыўдная, незаслужаная і незайздросная ...»

Беларускія хоры (а такіх у Беларусі нямала!) сьпяваюць песьні — і ў рэпэртуары маюць іх шмат — расейскія, украінскія, грузінскія, і нават фінскія! «А вось роднай, беларускай — ніводнай ! ! !»

Кажа кіраўнік хору: «Сьпяваць няма чаго». Няма распрацаваных песьняў — «У музычным вучылішчы на бел. народную песьню за чатыры гады было адпушчана пару гадзін ...»

А слаўны сучасны кампазытар Рыгор Шырма, які беларускай песьні аддае «ня толькі сваю душу і жар сэрца, але і здароўе», мае гатовых песьняў — 150. Адсылаюць яго ад Пілата да Гэрада, а песьні далей ляжаць у папцы ...

І гэтак дзеецца зь іншымі беларускімі культурнымі працаўнікамі: іх не шануюць і ня цэняць, ім толькі вольная дарога на хрушчоўскую цаліну!

Паслухайце, што яшчэ гаворыць Янка Купала, — усё пра нашу песьню:

*Вы ў ланцугі ўсё закавалі —*
*І суд, і праўду, і закон!*
*Расправу праўдай вы назвалі,*
*А ласкай — пахавальны звон.*

*Вы задушылі дух народны,*
*Да сьлёз мільёны давялі,*
*Збылі з жыцьця вам няпрыгодных,*
*Зглушылі кліч — «волі зямлі!»*

Ясна, што гэтыя гнеўныя словы зьвернены да цяперашніх кіраўнікоў нашае Бацькаўшчыны.

*

МІХАСЬ ЧАРОТ, народны паэт, празаік і драматург. Савецкая крытыка называла яго пралетарскім паэтам. На вучнёўскіх сшытках і амаль у кожнай школе былі партрэты маладога паэта. Ягоныя творы былі поўныя дынамікі і мілагучныя. Вучні ахвотна завучвалі вершы Чарота напамяць. А па вёсках асабліва папулярнай была ягоная камэдыя «Мікітаў Лапаць».

І нарэшце трагічна абарвалася жыцьцё паэта: у 1936 Чарота арыштавалі, як ворага народу, а ў 1938 ён згінуў у засьценках НКВД. —

*

8-га лістапада 1908 г. ў Менску нарадзіўся беларускі паэт МІХАСЬ БАГУН. У 1932—36 паэт працаваў у Дзяржаўным Выдавецтве БССР і ў рэд. газэты «Літаратура і Мастацтва». Выдаў кнігі «Залатая Рунь», «Рэха бур», паэмы і інш. Паў ахвярай сталінскага тэрору, загінуў 23 лютага 1938 г.

*

Вельмі харатэрная крытыка савецкіх *судоў:* судзьдзі назначаюцца толькі *партыйныя*-камуністы, хоць іх ёсьць ня больш 5-ці працэнтаў насельніцтва. Значыць, партыя мае ўплыў на су-

ды і праводзіць выгодную для сябе палітыку: можа свабодна караць 95% безпартыйных, за якія хочучы правіны і як хочучы.

*

11 лістапада 1875 нарадзіўся ў Менску беларускі аўтар баек і гумарэсак АЛЬБЭРТ ПАЎЛОВІЧ. Друкаваўся ў «Нашай Ніве», выдаў зборнік вершаў «Снапок», п'есаў «Васількі». — Быў сасланы ў аддаленыя месцы СССР. Памёр у самоце, далёка ад Бацькаўшчыны, 17. III. 1951. Часткова рэгабілітаваны пасьля сьмерці. Паўловіч выкінуты зь гісторыі белар. літаратуры за тое, што яго голас гучаў пратэстам супраць дыктатуры.

*

МІХАЙЛА ГРАМЫКА, вучоны, драматург, паэт. Хадзілі чуткі, што загінуў у ссылцы — аж рэгабілітаваны! Дый ужо 80-летні юбіляр ... Яго ўрачыста віталі, а кіраўніцтва Саюзу пісьменьнікаў Беларусі казала: «Вашы паэтычныя зборнікі ўвайшлі ў скарбніцу нашай мастацкай літаратуры». Аднак зусім *«не ўвайшлі» ?!* Спынены ягоныя творы ў тэатрах, у хрэстаматыях, у бібліятэках.

*

23 лістапада 1905 нарадзіўся таленавіты наш празаік ЯНКА СКРЫГАН. Друкаваліся вершы і апавяданьні яго пад псэўдонімам «Янка Відук» у альманахах «Росквіт» і «Наддзьвіньне». Выйшла кніга прозы «Затока ў бурах» і інш. — Стаўся ахвярай сталінскага тэрору: сасланы ў Сібір, арыштаваны і толькі пасьля 18 гадоў ссылкі вярнуўся на Бацькаўшчыну. Піша далей прозай.

Але змарнаваў нявінна найлепшыя гады жыцьця і працы!

*

5-га сьнежня 1966 споўнілася 30 гадоў Сталінскай Канстытуцыі: ён сам яе ўстанаўляў, укладаў у яе сваю бязбожную душу, памацнікам мала давяраючы. А пасьля яе высока выхваляў, называючы «дэмакратычнай», аднак ён сам першы пачаў яе ламаць і абвастраць, дый на падставе гэтае Канстытуцыі загубіў мільёны народу!

Гэта ведама: які аўтар, такое яго дзела.

Але вось што найбольш дзіўнае: самога Сталіна выкінулі з гробу, Хрушчова прагналі і казалі яму маўчаць, а тую Канстытуцыю трымаюць да сяньня! Тлумачаць яе як хочуць, але зьмяніць не асьмеляцца, бо на ёй вісіць уся камуна і атэізм.

Справа БЕЛАРУСКАГА ТЭАТРУ вельмі ўсіх цікавіць: вось міністар культуры і Саюз Пісьменнікаў БССР склікалі *нараду,* як ратаваць беларускі тэатр? — ад чаго ратаваць? Ці тут землетрсеньне, ці пярун ударыў у тэатр ? . . Не, ня тое!

— Але быў заложаны тэатр беларускі, а пасьля Сталін працаўнікоў беларускае культуры разграміў, а Хрушчоў замяніў і тэатр, і школу, і друк і ўсю культуру зь беларускай на расейскую! А цяперашнія ўлады далей яшчэ паглыбляюць магілу беларускае культуры.

Дык вось цяпер і ратуй тэатр, калі няма друкаваных беларускіх п'есаў, няма рэжысэраў, а самыя ўлады рупяцца аб тым, каб тэатр у Беларусі быў наскрозь расейскі ! . .

*

У 1966 г. прыпадалі 400-ыя ўгодкі II-ой рэдакцыі помніка беларускага права — «ЛІТОЎСКАГА СТАТУТУ».

Расейскія вучоныя называлі гэты Статут помнікам расейскай культуры і права, а польскія — помнікам польскім!

Пасьля І-ай Вялікай вайны беларускія вучоныя шмат папрацавалі над нашым Статутам, але пасьля — ў 30-тых гадах — Сталін іх працу спыніў, самых вучоных зьліквідаваў, а іхныя дакананыя працы-досьледы панішчыў.

Літоўскі Статут меў тры рэдакцыі: з 1529, 1566 і 1588 гадох. Трэба ведаць, што наш Статут быў першым зборам законаў у тагачаснай Эўропе і быў найбольш дэмакратычным з усяе фэадальнае Эўропы: ягоныя нормы былі найбольш гуманнымі.

Літоўскі Статут рэдагаваўся ў беларускай мове і на падставе нашых абычаяў: гэта нашая старая мова, зьбліжаная да славянскай. Характэрна, што расейскія цары і рас. урад прысвойваў сабе нашую мову дзеля яе назвы «руская», бо нібыта слова «руская» ёсьць роўнае слову «расейская».

Тымчасам у тыя часы слова «руская мова» не тасавлася да цяперашней Расеі: тады называлі беларусаў «рускімі», а цяперашніх расейцаў «масковітамі» і назва «Расея» паўстала толькі за Пятра І-га ў пачатку XVIII стагодзьдзя, як перанесьлі сталіцу з Масквы ў Пецярбург. Датуль іхны край называўся «Масковія».

Але яшчэ дзіўней, што і Савецкая Расея цьвердзіць царскую байку пра «Русь», раўнаючы яе з Расеяй, а расейскую мову называючы «рускай».

Калі паўстаў Літоўскі Статут, дык аб «Расеі» ніхто ня ведаў: зналі толькі Масковію і Маскву. Статут быў прыкладам для шмат іншых дзяржаваў, якія ўкладалі законы значна пазьней ад Вялікага Княства Літоўскага. Нормы Літоўскага Статуту выкарысталі палякі для сваіх законаў. Масква, 100 год пазьней, ўкладаючы законы ў 1649 — «Соборное Уложение», значную частку ўцягнула з нашага Статуту. Таксама карысталі з гэтага Статуту, перакладаючы яго на нямецкую мову, у Прусіі, у Латвіі і ў Эстоніі.

На няшчасьце нашыя землі падпадалі пад агрэсію Масквы, якая прысвойвала і ўсю нашую культуру, называючы яе сваей.

І што робіцца цяпер?

Цяпер Савецкі Саюз, накідаючы беларусам расейскую мову, таксама праводзіць і культурную агрэсію праз фальшаваньне гісторыі. Вось і вучаць і пішуць, што даўнейшая Літва — гэта ёсьць тая самая, што была Вялікім Княствам Літоўскім і што ёсьць цяпер Летувай ... Значыць, па іхняму, беларусам не астаецца *нічога!* Назва да нас не тасуецца, значыць, усё адносіцца да цяперашняй Летувы. А мова і культура была тады «руская», дык кажуць, што была «расейская»!

Вялікае шчасьце, што беларускія вучоныя — часта маладыя і энэргічныя людзі — разумеюць гістарычную праўду і стараюцца яе выясьніць у сваіх працах; аднак вялікае няшчасьце і канфузія, што ў Савецкім Саюзе ўсё друкаванае мусіць праходзіць праз густое сіта цэнзуры, вастрэйшай як была царская. Калі навет што і надрукуецца, дык у такой малюсенькай колькасьці і так дакладна схаванае пасьля ў архівах ураду, што ўсёроўна трэба лічыць за прапашчае.

*

12—17 лістапада адбыўся Зьезд кампазытараў Беларусі ў Менску: 23 кампазытары і 17 музыкаведаў. І былі госьці зь іншых рэспублікаў.

Песьня і музыка — спадарожнікі чалавека ў радасьці і нягодзе. Душа чалавека, як заношаны-зацяганы інструмант, можа лёгка расстроіцца: тады вымагае адпаведнага настрою і сугучнасьці і найлепш можа ўціхамірыцца песьняй і музыкай, адпачыць, уцешыцца і вярнуцца да самай цяжкой працы. Ня дзіва, што ўсе народы цэняць і разьвіваюць гэтыя шляхотныя галіны культуры; дык і беларускія кампазытары дасягнулі значнага посьпеху ў сымфанічнай і камэрнай музыцы, а таксама ў песьні, дый атрымалі добрую ацэнку.

Аднак-жа аказалася, што ў апошнім часе зьнізілася іх актыўнасьць у опэры, араторыі, кантаце і ў масавай песьні.

Кампазытары скардзіліся на перашкоды: іхныя творы цяжка выдаць друкам, а выдадзеныя цяжка знайсьці ў музычных магазынах. Тэатры пагардліва адносяцца да ўсяго беларускага. Хоць заграніца вельмі цікавіцца беларускай музыкай-песьняй, аднак наагул беларускія творы не прапускаюцца за граніцу.

Віна за гэтае ляжыць на белар. Міністэрстве культуры і на кіраўнікох тэатраў. Але-ж Міністэрства само ня можа нічога зрабіць без дазволу Масквы, а Маскве ляжыць на сэрцы толькі абрусеньне беларусаў.

Аднак госьці зь іншых рэспублік з пахвалай адзываліся пра тое, што творы беларускіх кампазытараў вызначаюцца народным нацыянальным калярытам. Але яны адзначылі, што белар. кампазытары замала чэрпаюць з багатай песеннай беларускай спадчыны.

*

10-га сьнежаня 1930 г. «ЗЬВЯЗДА» зьмясьціла «Адкрыты Ліст» народнага песьняра ЯНКІ КУПАЛЫ. Гэты трагічны «ліст» быў напісаны Купалам пад прымусам і пад дыктоўку органаў ГПУ. У ім Купала асудзіў усю сваю творчасьць і прызнаваўся да «памылак» і ўва ўдзеле ў «нацдэмаўскай контррэвалюцыі».

«Адкрыты Ліст» Купалы цесна зьвязаны з падобным «Лістом» ЯКУБА КОЛАСА», апублікаваным у канцы лістапада 1930 г.

Гэта была частка варожага сталінскага паходу супраць беларускае культуры.

*

Прыемна і радасна чуць, як паведамляе *радыё МЕНСК*, што із 39-ці краінаў сьвету ў белар. сярэдніх і вышэйшых школах вучыцца каля 500 іназемных студэнтаў. Але чаму ня выпушчае Масква беларускіх студэнтаў вучыцца заграніцай?

*

*75 год* таму, 9-га сьнежня 1891, ў Менску нарадзіўся МАКСІМ БАГДАНОВІЧ, а *50 год* таму ён памёр у травені 1917 г., пражыўшы ледзь 25 год!

Неўзабаве пасьля нараджэньня паэта сям'я Багдановічаў пераехала ў Горадню, а пасьля ў Расею, але у 1916 вярнуліся ў Менск.

Першы твор Багдановіча быў зьмешчаны ў «Нашай Ніве» ў 1907 г., а ў 1913 выданы ягоны зборнік «Вянок». Апрача вершаў пісаў прозай, даваў пераклады з розных моваў, пісаў навуковыя артыкулы, крытычныя працы, рэцэнзіі і інш.

М. Багдановіч увайшоў у белар. літаратуру як адзін з найлепшых мастакоў слова і падаваў найлепшыя надзеі на прышласьць, на жаль памёр у самым росквіце сваіх творчых сілаў.

## З беларускае прэсы

ЗЬНІЧ: № 90, Кастрычнік-Сьнежань, 1966, Год XVIII. РЫМ.

Віншаваньне Ўсяму Беларускаму Народу і вельмі складны калядны верш-песьня.

ГОЛАС ЦАРКВЫ: № 24, КАЛЯДЫ, 1966. ГОД 12. Нью Ёрк. — Каляднае Пасланьне. Традыцыі, Хроніка.

БАЦЬКАЎШЧЫНА: № 4 (637), Сьнежань, 1966. — Два Калядныя Пасланьні да ўсіх вернікаў на чужыне і на Бацькаўшчыне.

БЕЛАРУС: № 116, Сьнежань 1966, Нью Ёрк і «ВЕСТКІ З КАНАДЫ»: Беларускі праект на 100-годзьдзе Канады — вельмі характэрны і цікавы праект — закупіць пляц і дом для Асяродку Адпачынку *«Слуцак»!* — Заклікаюцца Грамадзяне Беларусы бяз розьніцы прыналежнасьці да групаў.

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС: № 143, Лістапад 1966, ТОРОНТО — КАНАДА. — Як звычайна, шмат розных вестак.

НАВІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ: № 24, 31 Сьнежня 1966, НЬЮ ЁРК.

РАДЫЁ СВАБОДА: Лістапад і Сьнежань, 1966: Агляд Замежнай Прэсы і паважныя Беларускія Праблемы.

## З лістоў у рэдакцыю

АРГЕНТЫНА.

Паважаны Ойча Рэдактар!

У кожным нумары «Божым Шляхам» Вы так перабралі дакладна кожнага чытача, каторы ня плаціць, што, здаецца, ня будзе сухой ніткі... Аднак ёсьць такія людзі, што ня плацяць, чытаюць і другім даюць да чытаньня. Між такіх людзей знаходжуся я. Але чаму так дзеецца, хачу гэту справу высьвятліць: калісь, некалькі добрых гадоў назад, існаваў тут пры гуртку Беларусаў пункт падпіскі, тагды я атрымоўваў усе беларускія газэты, сплачваў гуртам і ня было клопату. Калі аргентынскія ўлады забаранілі высылаць за граніцу «чужую валюту» (даляры, фунты»), а пэзаў тутэйшых ніхто ня хоча, то чым плаціць за пранумарату? Купляць даляры на «чорным рынку» і высылаць у лістох — ёсьць вельмі рызыкоўна, бо і грошы прападуць і пад суд папасьці можна. Ляпей не рызыкаваць! Маючы надзею, што гэтая пастанова ўраду адменіцца і тагды аплаціцца доўг — і такім чынам цягнецца.

Другая справа: — мне не заўсёды было чым плаціць. Не па беднасьці! Дзякаваць Богу, у Аргентыне можна добра жыць, калі хто не лянуецца. Але вось быў час, што трэба было лічыцца з грашыма, бо арганізаваў славянскі аддзел на каталіцкім унівэрсытэце. У гэтым была прадбачана гісторыя беларускай літаратуры. На жаль не дайшло да добрага рэзультату, бо не было студэнтаў: Славянаў мала, а для Аргентынцаў чужыя мовы — гэта кітайская грамата. Асталася толькі саветалёгія. Добра і гэта! Тут шмат прадметаў зазубляецца з беларускімі справамі, з якімі мусяць запазнацца студэнты-аргентынцы, як і з іншых нацыяў.

. ў канцы канцоў ня гневайцеся, пачакайце яшчэ крышку. Або будзе можна высылаць грошы, або можа хтось будзе ехаць да Англіі, ці можа ўстабілізуецца тут якісь пункт падпіскі.

Са шчырымі пажаданьнямі ўсяго найлепшага — Вясёлых Сьвяткоў і шчасьлівага Новага Году!

**Э. Цяўлоўскі**

*

Н а т а т к а з «Кур'ера Польскага» ў Аргентыне № 8 (1) 1959 г.:

— З пэрыяду повесьці Ф. Чарнышэвіча ёсьць адна паэма сатырычна-гумарыстычная пад наз. «Як Ганула зьбіралася ў Аргентыну».

— Аўтар часта ў саркастычнай форме паказвае клопаты выезду. Вясковая жанчына з малалетнім сынам стараецца выехаць у Аргентыну. Дзеля перакладу зь беларускага на польскі, а пасьля на гішпанскі паказалася ў дакумантах, што ў яе ня сын, але дачка (!). Таму адпаведна мусіць перапранаць, раз за хлапа, а другі раз за дзяўчынку. Як паэмка яна была надзвычай дасьціпная, не пазбаўленая зьедлівасьці.

(Аўтарам паэмы быў Вінцук Адважны).

*

ЧЫКАГА, 20. XII. 1966. Пачну ад вестак: сабралася іх цэлая гурбіна, можна сказаць, трасянка. Пастараюся трымацца храналягічнага парадку, калі памяць гэтаму спростае, бо «памяць памяншаецца без практыкаваньня» (лацінская прыказка).

У лютым г. г. прыяжджаў баўгарскі кароль Сымэон II-гі са сваей жонкаю з Мадрыту, дзе ён чакае на памысныя вятры, якія плаўна перапіхнуць ягоную лодку праз Сцыльлю і Харыбду ў вольную Бау-

тарыю. Жонка і я былі запрошаныя на каралеўскі банкет у шыкарным гатэлі ў Чыкага. Пасыпаліся прамовы са стараны баўгарскай, амэрыканскай, ды на заканчэньне „Oratio Regis Illustrissimi“ па ангельску.

Гэта афіцыяльная частка, а пазьней быў высьветлены фільм з жыцьця караля — ад дзяцінства да яго прыбыцьця ў Гішпанію. Гэты фільм паказаў таксама дзейнасьць і славу ягонага бацькі Барыса.

У сакавіку пачаў інжынер-сакол Рыхтар званіць, што Кардынал Бэран прыяжджае ў Чыкага і што «белёруске орэльство е поздровіць пана кнэзя-кардынала». 23-га красавіка ён прыехаў і адслужыў вечарам Імшу. Посьле была адкадэмія. З нашых была невялікая група; мяне запрасілі на сцэну. Пасыпаліся прамовы па чэску: тое-сёе зразумелася.

13 траўня адбыўся канцэрт украінскіх бандурыстаў, былі прадстаўнікі нацыянальных групаў.

Тыдзень паняволеных народаў адбыўся 16 ліпеня, быццам найбольшая маніфэстацыя ў Амэрыцы. Мэр гораду Дэлей выдаў прынагодную дэклярацыю і зроблена шмат здымак.

26-га чэрвеня было зладжана Купальле: праграму ўкладалі Пануцэвіч і Вера Рамук. Даход з гэтага пайшоў на Царкву. Імпрэза ўдалася: было шмат амэрыканцаў; прачытаны даклад аб Купальлі напісаны Пануцэвічам. Дзіўна, што ў нашай прэсе ня было ўспомнена!

Як мы вярнуліся з вакацыі, дык нас паведамілі ўкраінцы, што палякі з нагоды свайго «Мільленіум» разьвесілі карты Польшчы «од моржа до моржа і кілямэтр за моржэ» дый свае флагі ў горадзе. Тут усе суседнія народы, асабліва летувісы, паднялі пратэсты і іх экспэрымант доўга ня цьвіў — засох ён у пучкох. І Дэлей палякам сказаў, каб болей гэта не паўтаралася.

У нашай дзялянцы пачалася рухлівасьць адносна беларусызацыі Літургіі: ужо дасюль чулася, што ўсё прыгатавана і чакалі, калі пачнецца служба ў беларускай мове, прынамся часткова. Аднак ня было ніякага водгуку, а нават пэўны супраціў. У Рыме а. Татарыновіч пераклаў Літургію і добра зрабіў: ёсьць там недахопы, але «Рым сказаў, справа скончана!» і таму заслуга Пралата — вялікая!

У нядзелю гэтая справа знайшлася на форуме парахвіяльнай дыскусіі. Мы прыходзім, каб пачуць сваю мову, а тут чуем што іншае. І я забраў голас, кажу: «На Беларусі перад вайною змагаліся за сваю мову; а тут на чужыне, дзе ёсьць поўная свабода, мы не стараемся. Ватыканскі Сабор даў багаславенства на народныя мовы і ўсе нацыянальныя групы паўводзілі. А ў нас ніяк ня можна ўвесьці прынамся «Ойча наш» ды іншыя малітвы. Пануцэвіч пару гадоў таму назад вельмі шматператлумачыў, а чаму ня ўводзіцца? Мы прыходзім у сваю царкву і хочам чуць у сваей мове: ня пойдзем ані ў нямецкую, ані ў польскую субожню прасіць сьвятара, каб адправіў у нашай роднай мове!

Нашыя сьвятары перад вайной вялі змаганьне за родную мову ў сьвятынях. Польскія сьвятары цэлай парай уводзяць сваю мову і ад іх трэба браць нам прыклад». Ну, і пасыпаліся галасы, каб беларушчыць Літургію! — Іншы кажа: «Шмат хто не разумее славянскіх слоў, як «Пакі й пакі...»

Нарэшце а. Уладзімер адказвае, што магчыма ўвесьці пэўныя малітвы, але што і Лёндан таксама кансэрватыўна трымаецца старога.

Вось так і закончылася дыскусія, але не справа, каб далей церабіць шлях да мэты.

А на заканчэньне — вестка: адна ўкраінская газэта ў Чыкага напісала, што Беларусь ёсьць «унутранай справай Украіны», ды іншыя такія — ў чатырох нумарох... Мы, ведама, пратэстуем!

**Ваш В-т.**

# Што Беларус каже аб Аўстраліі?

## II

Як толькі я сюды прыбыў 30. III. 1950. пажыўшы нейкі час у агульным лягеры, я трапіў на працу ў паўночнай стрэфе, значыць, у гарачым клімаце. Жылі мы ў палатках на станцыі чыгункі, а сама станцыя — хлявушок, дый там адна прадуктовая крама і нашых шэсьць палатак — і гэта ўсё! Ды яшчэ вялізная пуня без страхі, дзе ссыпаюць фармары пшаніцу, а пасьля ладуюць у вагоны.

Наўкол, як вокам кінуць, пасевы пшаніцы і авечкі, а фармы недзе далей. Ні дзерава, ні кусьціка, пад голым — без хмаркі — небам, як скляпеньне ў вялізарнай печы. — Сьпякота як у пекле і ўдзень і ўночы. Мух мільярды — неадчэпныя — лезуць у нос, у вочы — махайся, колькі хочаш, нічога не паможа! Зрабіў сабе сетку, як ад пчол — нельга вытрываць — задыхаешся. А мурашак — процьма! Еміны няма дзе ад іх схаваць, дык бралася гэтулькі з крамы, каб адразу зьесьці.

Вецер ганяе пясок, як у Беларусі зімою сьнег: поўна скрозь — у зубах, вушах, вачах і ў хлебе і ў пасьцелі... Вады няма: нам прывозілі зьнекуль у цыстэрнах — чырвоную ад іржы — аж нічога засыпаць ня трэба, як «гарбата», ды і то, як кажуць, «тройчы у дзень па сталовай лыжцы», як лякарства.

Бывала, у нядзелю сяджу і пастаўлю міску гэтае бурды ля сябе і праз пару хвілін назьлятаецца безьліч папугаў — просяць піць, а я бяру іх рукамі — так іх морыць прага! Як налятуць, закрываюць сонца як хмара і то рознага колеру. Мы іх лавілі і варылі суп зь іх — сапраўды смак кураціны! I дзікія кролікі прыходзілі ў госьці папіць — бяры, а ён не ўцякае.

Як бачыце, ува ўсім розьніца ад Эўропы: чым далей на поўнач, тым гарачэй; бывала, яда ня лезе ў горла, а ўсё прага піць. П'еш, п'еш, — дый вада сама цёплая; зноў п'еш — пацееш і ўжо сам гарбуз і яшчэ піць хочацца... Думаеш: «Эх, каб

хоць кубачак нашае вадзічкі з крынічкі — з пад кусьціка, дык аддаў-бы ўсё!» — Толькі ўспомніш, як папіваў калісьці чысьценькую як сьлязінку... А тут сонца пячэ і смаліць маё цела і мучыць мяне і аж робіцца сьмешна: са мною неразлучны мой цень — і так мы «у дваіх» усюды разам стырчым і сабе назаляем. Адна-бы выгода, што ўначы сьпіш абсалютна голы як у ваньне — адно мурашкі лазяць: шчасьце, ня кусаюць, бо каб кусалі, дык думаю, што і ў пекле ня было-б горш!

Так я прагараваў цэлых тры месяцы і далей ня мог вытрываць: напісаў у дырэкцыю чыгункі просьбу, каб перавялі ў месца, дзе ёсьць шпіталь, матывуючы тым, што ў мяне жонка хворая. І хіба-ж Бог убачыў маю пакуту, бо маю просьбу ўважылі (хоць і пісаў па свойму) і мяне незадаўга перавялі сюды, дзе жыву і цяпер.

І вось мы апынуліся ў Альбаны і крыху аджылі пасьля таей сьпякоты: пачалі больш есьці, а менш піць вады, бо тут — над самым берагам мора — вялікая розьніца ў клімаце, а нат можна і ў моры пакупацца.

Пару тыдняў, пакуль разглядзіўся, жылі ў палатках, а пасьля паталкавалі з жонкаю, што ня век-жа нам таўчыся, а трэ прыдбаць сваё і купілі за местам два гэктары зямлі-лесу, які не бачыў чалавека ад часоў Кука. Гатоўкі ня меў, дык запазычыўся ў «добрага» чалавека, які даў на сплату — па 5 фунтаў у тыдзень: заплаціўшы 100 фунтаў, а сам зарабляў па 8 ф. у тыдзень. —

Цяпер я сам узяўся за працу: марыўся днямі і начамі — пяць днёў на чыгунцы, а субота й нядзеля — «выхадныя дні» — на сваей дзялянцы і чым хутчэй паставіў будку ўжо на сваей зямлі! Карчаваў пры ліхтары ўначы, у дзень пілаваў на дровы. Было-ж тры кілямэтры да працы на чыгунцы, дык езьдзіў самакатам туды-сюды. Таму, што вады ня было, дык з жонкаю пачалі капаць студню і паставіў ветраную помпу, бо ветру тут хоць адбаўляй: маемо вады на гарод і ў хату, а вада аказалася вельмі добрая для піцьця, як гэта прызналі ў аналізе.

Аднак з гароду і саду выйшаў «пшык»: мусеў усё ліквідаваць, сад выкарчаваў і заняўся пасекай...

*

Спытаеце, чаму ўсё тое сам памарнаваў? — А вось: працай так змогся, што ня мог і валачыць ног. Тады падумаў: «. дакуль буду так душыцца?» Наняў бульдозер і яны мне ўсё вывернулі і сапхнулі ў кучу.

Добра! думаю — трэба заняцца гародніцтвам. Нядарма-ж я скончыў гаспадарскую школу. І вось пайшла лапата ў рукі. Найперш абгарадзіў сваю пасэсію. Уражай у гародзе падыйшоў багаты з насаджанай бульбы, капусты, агуркоў, цыбулі, памідораў. Іду я ў краму — трэба прадаваць тавар! «А дазвол — пытаюць — маеш?» — «Які дазвол? бо ў нас у хаце, што меў, тое й прадаваў...» — Кажуць: «Тое было там у хаце, а тут іншае!» — За пару тыдняў і штрафам пацешылі — шэсьдзесят фунцікаў як маланкаю спаліла! — Разьвёў курэй, індыкоў, качак, — прадаваць яйкі — дазвол і падатак; пасадзіў сто фруктовых дрэўцаў – падатак, разьвёў пчолаў — падатак!..

Яшчэ меў пасеку, але малая карысьць: мёд танны, а інструмант дарагі, але на тым выйграў, што ўсё рабіў сам. І Вы, а. Рэдактар, пісалі, што пры занятку будзе менш думак, дык я ў вольным часе быў заняты пры пчолках: менш маркоты і любіў тэтае дзела.

Цяпер у нас так выходзе, як у байцы аб «Залатой Рыбцы»: як ня мелі нічога, а жылі ў будцы, дык казалі, «каб-жа мець хоць сваю стрэшку!» Збудаваў гаражык, але трэ — і хату, каб зажыць па людзку. — Добра! Гатоўкі ня было, дык усадзіў галаву ў пятлю: улез у банк і тады мусіў працаваць на сябе і на кагосьці, а рукі толькі адны... Хату будаваў сваею сілай, а тут пачаў наседаць банк — трэ аддаваць доўг і плаціць працэнты ($ 6000). Высах я як таракан — аж ня трымаліся порткі, а тут і дзетак хацеў вучыць, каб ня былі такія дурныя як бацькі, бо (як ведаеце) дурному кепска жыць на сьвеце.

Будучы ў Нямеччыне, дачка ня дрэнна вучылася, а і сынку пяць гадоў...

---

## ДУМКІ АБ ПРАЎДЗЕ

Божая праўда мусіць быць заўсёды як Хрыстос перад Пілатам:

мусіць быць зьвязаная людзкімі рукамі,
мусіць быць аблітая крывёю,

аднак мусіць стаяць у яснасьці сонца і відавочная для ўсіх, бо яна ёсьць пасланая да ўсіх!

*Праўда* аднолькава патрэбная простаму чалавеку як і мудраму. (Р. Бэнсон).

Хто ня жыве так, як думае, той кончыць заўсёды на тым, што будзе думаць так, як жыве.

(Г. Куртуа)

# Малітвы Сьв. Кірыла Тураўскага

(Пераклаў на навачасную белар. мову а. Я. Г.)

## Малітва да Божае Маці

*Цара Сьвятога, о, добрая Маці,*
*Глянь літасьціва на грэшнага сына:*
*Руку падай мне — ня дай прападаці, —*
*Вызваль ад грэху, надзея адзіна!*

*Увесь я грэшны душою і целам, —*
*Вачэй падняці да Цябе ня сьмею:*
*Малюся з плачам, каб Ты захацела*
*Мне даць ратунак, як маю надзею.*

*Хрыста радзіла: Ён мёртвых ажывіць. —*
*Ратуй мяне Ты — ў грахох паміраю:*
*Твая малітва мяне ашчасьлівіць, —*
*З Хрыстом паўстану і Бога пазнаю.*

*Ад стрэл варожых духа вельмі злога*
*Твой шчыт надзеі мяне абароніць:*
*Нягодных д'яблаў, (а іх надта многа!),*
*Твой меч магутны у пекла прагоніць.*

*Заграз я ў злосьці, глыбей западаю;*
*Каб я ня згінуў ганебна ў астатку,*
*Вырві з балота, падыймі з упадку,*
*Сын блудны — ласкі твоей выпрашаю!*

*Загады Сына твайго я пакінуў, —*
*Я адвяртаўся ад Яго навукі:*
*О, Найсьвяцейша, каб-жа я ня згінуў,*
*Ратуй ад пекла — ад вечнае мукі!*

*А цемра грэху мяне агарнула,*
*О, асьвяці нас сваею зарою! —*
*Сьляпая немач да зямлі прыгнула —*
*Пайду да Бога я разам з Табою.*

*Найпрыгажэйша, цудоўна лілея,*
*Ты між жанчынаў — з усіх кветак Дзева,*
*Божая Маці, магутна надзея,*
*Брама да неба, Ты — райскае дрэва!*

*Грахі як воды мяне абступілі:*
*Думкі нягодны і словы бясстыдны*
*Так з галевою мяне затапілі —*
*Стаўся, як дрэва гнілое, агідны.*

*Цябе вітаю і надзею маю,*
*Чыстая Дзева, маё ачышчэньне,*
*О, Маці Божа, у бядзе канаю:*
*Сваею ласкай прысьпяшы збаўленьне!*

*Мяне разьдзерці і пажорці хоча*
*Люты зьвер-вораг, (яму душаў мала!),*
*Каб цябе бачыць, адчыні мне вочы,*
*Язык ачысьці — пяяць Тваю хвалу!*

*«Вітай, Марыя!» клічу з арханёлам*
*Усей душою — пяю цэлай сілай:*
*Прад Божым Тронам, прад нябескім хорам —*
*«Радуйся шчасьцем у Айчыне мілай!»*

*Богу у Тройцы — вечна хвала ў небе:*
*О, Маці Божа, ведаеш дарогу —*
*Саму бліжэйшу — у маей патрэбе —*
*Мае малітвы пакажы ўсе Богу!*
*Аман.*

## Малебны Канон

*ПЕСЬНЯ 1-ая*

*Бяжы зь Егіпту і ўспомні Майсея,*
*Кінь Фараона — у Хрысьце надзея:*
*Крыж як падыймеш, гляне Бог ласкава —*
*Бог — наша слава!*

*Сьвет няхай знае, што я вінаваты —*
*Бога абразіў — грахамі заняты:*
*Сам асуджуся і сам расьпішуся —*
*Бога баюся.*

*Дакуль ты блудзіш, душа мая грэшна?*
*Бяжы ад грэху да Хрыста пасьпешна, —*
*Варожы путы разарві — адблутай*
*Сьвятой пакутай!*

*Сьвятую Тройцу сэрафімы славяць,*
*Тварца сусьвету ўсе анёлы хваляць:*
*Божа! пры сьмерці дай мне адпушчэньне —*
*Вечна спасеньне.*

*Як тыя дзевы, што ня мелі масла, —*
*Мая таксама лямпа ўжо загасла... —*
*Ах, Маці Божа, адчыні, як трэба,*
*Браму да неба!*

### *ПЕСЬНЯ II-ая*

*Закон Мойсея жыды праступілі:*
*«Бога, ён кажа, вы так прагнявілі!..» —*
*Бог справядлівы — усіх нас рассудзе,*
*Што з намі будзе?*

*Адам у раі зламаў Закон Божы*
*І я — з грахамі — стаў Богу нягожы:*
*Сьвятло пакінуў, у цьму апусьціўся —*
*З дарогі зьбіўся.*

*Як Ламех, я да грахоў прызнаўся,*
*Пасьля аднак-жа зноў да іх вяртаўся:*
*Гора мне гора! Моцна ў грудзі б'юся —*
*Бога баюся.*

*Ты — Бог любові, міласэрдзя, Божа,*
*Хай твая ласка мяне успаможа —*
*Айца і Сына і Духа Сьвятога —*
*Госпада Бога!*

*Я — грэшнік глянуць у неба ня сьмею,*
*Аднак-жа маю у Богу надзею. —*
*Да Маці Божай падыймаю рукі —*
*Збаў нас ад мукі!»*

### *ПЕСЬНЯ III-ая*

*Божа магутны, малюся нясьмела —*
*І дух мой — грэшны і слабое цела:*
*Прыймі малітву і ратуй ад злосьці —*
*Душу і косьці!*

*Грахі успомню — аж сэрца трухлее!*
*Толькі у Богу адзіна надзея:*
*Хоць у пакусах награшыў я многа, —*
*Міласьць — у Бога.*

*Душа няшчасна, што цябе чакае?*
*Вязьніца ў пекле і доля ліхая!*
*Як не паўстанеш, чакае няволя —*
*Вечна нядоля.*

*Чалавек — грэшны, а Ты — Сьвяты, Божа*
*І твая ласка даравацъ мне можа —*
*Айца і Сына і Духа Сьвятога —*
*Добрага Бога.*

*О, Маці Божа! слаўная ад веку —*
*Ты — абарона ў бедах чалавеку:*
*Тваей малітвай Бог дасць разграшэньне*
*І адпушчэньне.*

### *ПЕСЬНЯ IV-ая*

*Аввакум бачыў Хрыста ў правідзе:*
*Каб нас ачысьціць, з сваей ласкай прыйдзе. —*
*Ратуй нас, Божа, у сьмяротным бою*
*Моцнай стралою!*

*Я ад маленства да грахоў схіляўся:*
*Пякельнай сіле часта паддаваўся —*
*Такі нячысты, такі я бястыдны —*
*Грэшнік агідны!*

*Плакаў за грэх я, зноў у грэх вяртаўся —*
*Цмоку й дракону усьцяж аддаваўся... —*
*Душа, пакутуй! Што цябе чакае? —*
*Бог пакарае!*

*Слуга лянівы закапаў манэту —*
*Душа- пустая, — ня прыдбаў працэнту:*
*Сьвятая Тройца, не карай так срога*
*Слугу благога!*

*Грахі бяз ліку — даруй, Божа мілы!*
*Хоць іх аплакаць я не маю сілы:*
*Хрыстова Маці, за мяне маліся*
*І заступіся!*

### *ПЕСЬНЯ V-ая*

*Ісай маліўся прад зарой ранютка,*
*Каб Бог даў кару бязбожнікам хутка:*
*Душа, збудзіся, выйдзі з цемры лютай*
*Шчырай пакутай!*

*Як той Іуда, што для грошаў згінуў,*
*І гэтак Бога для грахоў пакінуў:*
*Прыймі, мой Божа, маю, як Пятрову,*
*Пакуту нову!*

*Ты не надзейся у гэту мінуту —*
*Бяз сьлёз гарачых — на сваю пакуту,*
*А Бог карае за грэх векавечна —*
*Ня будзь бязпечным!*

*Ўдава ўбога ад злачынцы плача,*
*Я сам — злачынца! вось што прыклад знача:*
*Душа няшчасна, што з табою будзе*
*На Страшным Судзе?*

*О, заступіся — Ты — найлепша Маці,*
*З грахоў, з упадку, калі трэба ўстаці:*
*Душа ўбога ўдава — вельмі хвора, —*
*Дай помач скора!*

### *ПЕСЬНЯ VI-ая*

*Малю як Йона і плачу сардэчна,*
*Каб мне ня згінуць за грэх векавечна:*
*— Прымі у Цэркву, прашу з усей сілы,*
*Ах, Божа мілы!*

*Хрысьце, мой Спасе! грэшнік я убогі*
*Твае сьвятыя цалую парогі —*
*З жалем-пакорай, хоць быўшы няверны, —*
*Будзь міласэрны!*

*Ратуй ад згубы, дай любоў у сэрцы,*
*Знайдзі як драхму, што у паняверцы*
*Была ў балоце: буду я вясёлы,*
*Так як анёлы.*

*Няма ратунку нігдзе, ад нікога —*
*Толькі у небе і толькі ад Бога —*
*Сьвятая Тройца мяне успаможа —*
*Мой Моцны Божа!*

*О, Маці-Божа, прашу — заступіся —*
*Ты наймацнейша ад усіх — маліся:*
*Выпрасі ласкі для мяне слабога —*
*На Судзе ў Бога!*

### ПЕСЬНЯ VII-ая

*Бог даў анёла: з печы агнявое*
*Сьвятых звальняе. Варагоў затое,*
*Агнём спаліўшы, забраў на Суд ўласны,*
*А Суд быў страшны!*

*Душа, пакутуй, бо так мала часу!*
*Каб там ня выйшла, так як Анастасу —*
*Цару, што трапіў на Суд Божы люты —*
*І без пакуты ...*

*Хвядос Вялікі пад царквой маліўся —*
*Ён у пакуце там з грахоў абмыўся:*
*І ты ў пакуце да Бога вярніся —*
*Плач і маліся!*

*Паклон дам Богу — Айцу, такжа Сыну,*
*Сьвятому Духу: Тройцу так адзіну*
*Буду хваліці — ўзносіць рукі й вочы*
*І днём і ўночы.*

*О, Маці Божа! Ты — радасьць адзіна,*
*Прасі Ісуса Хрыста — Свайго Сына:*
*Хай міласэрны грэшным дзецям будзе —*
*На сваім Судзе!*

### ПЕСЬНЯ VIII-ая

*Сьвятых малітва агонь астудзіла,*
*Бо у малітве ёсьць вялікa сіла:*
*Юнакі ў печы Бога выхвалялі —*
*Гімны пяялі.*

*Дрэнна малітва — бяз добрага дзела!*
*Апостал Павал кажа мудра й сьмела:*
*«Пяць словаў скажаш — больша слава ў Бога,*
*Як ляпаць многа!»*

*Ах, мілы Божа! малітву худую,*
*Што ў цяжкім горы Табе ахвярую,*
*Лічы за грэх мой, хоць проста малюся*
*І ў грудзі б'юся!*

*З глыбіні сэрца клічу я ў патрэбе:*
*«Даруй грахі мне, Божа Ойча ў небе,*
*Ня ўводзь ў пакусу і збаў ад благога —*
*Ад духа злога!*

*«Вітай, Марыя! — прашу — заступіся,*
*Ня гардзь малітвы — за мяне маліся:*
*Сваей рукою — ад кожнай напасьці —*
*Ратуй ў няшчасьці!*

### ПЕСЬНЯ IX-ая

*Дзева Марыя, Ты — Божая Маці,*
*Адама-Еву магла ратаваці:*
*Мяне таксама выбаві ад блуду —*
*Дзякаваць буду!*

*Мноства анёлаў — Вы ў Бога шчасьлівы:*
*Маліце — будзе і мне літасьцівы. —*
*Ў малітве вашай я маю надзею —*
*Прасіць ня ўмею ...*

*О, Хрысьце-Божа! стаю я зграшыўшы,*
*Людзей ты збавіў, кроў сваю праліўшы:*
*Збаў мяне, Збаўца, заслугамі тымі —*
*Разам з Сьвятымі!*

*Я, як асуджан, перад самым сконам,*
*Дрыжу у страху перад Божым Тронам:*
*Грэшнік вялікі — ласкі спадзяюся —*
*Богу малюся.*

*Выбаў, о, Маці! ад агню, ад мукі:*
*Прашу я ласкі, апекі, парукі:*
*Зрабіць мне можаш просьбамі сваімі*
*Разам з Сьвятымі.*

---

### МАЛІТВА ДА СЬВ. ТРОЙЦЫ

*Дай, добры Божа, зару й сонца бачыць,*
*Тваею ласкай захавай ад грэху:*
*К'Табе ўздыхае маё сэрца, плачыць —*
*Дай ў Тваей сіле мне знайсьці пацеху!*

*Ты сьвет уладзіў на людзкую службу —*
*Такі карысны і такі прыгожы,*
*Каб мы, ўвайшоўшы з гэтым сьветам ў дружбу*
*Цябе хвалілі, найлепшы наш Божа!*

*Табе малюся, Божа міласьцівы,*
*Дай мне убачыць сьвет твой найясьнейшы —*
*Цябе Самога і ўсе ў небе дзівы —*
*На векі вечны, Божа наймілейшы!*

*Тваею моцай і я моцны стану —*
*Айца і Сына і Духа Сьвятога —*
*Тройцу адзіну, калі ў неба гляну,*
*Хваліці буду Стварыцеля Бога.*

*Будзь слава Богу — ў Тройцы ўсемагутнай*
*І жыватворчай, вечнай на заўсёды,*
*І неразьдзельнай і адзінасутнай —*
*У Божай моцы — знак любові-згоды.*
*Аман.*

# З а п а в е т

*— Ты ў гэтым сьвеце — новы, —*
*Так калісь казаў мне дзед:*
*— У будучым — твой шлях жыцьцёвы:*
*Ты гора ўбачыш з раньніх лет.*

*На жыцьця шляху цярністым*
*Запавет мой зьберажы:*
*Будзь душой і сэрцам чысты,*
*Як і я свой век пражыў!*

*Каб ня скрыўдзіў анікога,*
*Ні пагардзіў анікім,*
*Ня прысвоіў анічога,*
*А сваё дзяліў з другім!*

*Памагаў каб ты сіротам,*
*Удаву каб бараніў!*
*Нат п'янога, хоць пад плотам,*
*Агарні і прыхіні! —*

*Мо жабрак, або убогі*
*Стане ціха пад дзьвярмі, —*
*Гэта-ж госьць прыйшоў ад Бога:*
*Прывітай і ў дом прымі!*

*Ня будзь сквапны на багацьце,*
*Каб не здрадзіўся ты зь ім:*
*Хлеб, вада і соль у хаце —*
*Будзь здаволены хоць тым!*

*Слухай, ўнучак! ведай тое, —*
*Запавет канчаў так ён:*
*— І жыцьцё і ўсё зямное —*
*Гэта-ж толькі дзіўны сон!*

*Зьберажы мае ты словы, —*
*Выпаўняй мой запавет:*
*Жыві з Богам, будзь гатовы*
*Знайсьці ў Богу лепшы сьвет!*

Н-скі.



**СЬВЕЖАЯ МАГІЛА**

З глыбокім сумам паведамляем, што 8-га студзеня 1967-га году, у выніку нешчасьлівага выпадку памерла мая дарагая незабыўная Цёця, клапатлівая бабулька двух унукаў, наша няўтомная супрацоўніца й адданая працаўніца на культурна-грамадзкай ніве

с ь п я в а ч к а

Б А Р Б А Р А  В Е Р Ж Б А Л О В І Ч - В Е Р Б І Ч

Паховіны адбыліся 11-га студзеня, а гадзіне $14^{30}$, на мюнхэнскім могільніку Westfriedhof.

Галіна Ганчарэнка-Руднік
Унукі Алесь і Юрка
Беларуская Рэдакцыя Радыя «Свабода»
Беларускі Нацыянальны Камітэт у Нямеччыне

Сьв. Памяці СЦЕПАНІДА (СТЭФАНІЯ) С Т О М А. — Нарадзілася 15 лютага 1882 г. ў мястэчку Лужкі Дзьвінскага павету. — Памерла 31-га кастрычніка 1966 г. у St. Peter's Hospital у New Brunswick, N. J. — U.S.A. — Пахавана на Беларускіх могілках у East Brunswick, пасьля набажэнства і атпеваньня а. Протоереям Сьцепанам Войтэнкам.

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

# УВАГІ:

Маеш два мускульныя *плячы*, дзесяць зручных *пальцаў*, нястомныя *ногі*, зорка відзячыя *вочы*, чуткія *вушы*, — ўсё гэта нагатове, каб для цябе працаваць. — Дый апрача таго асабліва адукаваная, ясна думаючы *галава*, — гэта цэнтральнае бюро, цудоўна ўладжанае, забяспечанае ў тэлеграфічную і тэлефонічную сетку, дзе што мінуты вырашаюцца і высылаюцца сотні і сотні тэлеграмаў ад тваіх пяці *пачуцьцяў*. — А ты толькі чакаеш чужой *помачы?!*

Целы сьвет належыць да *Бога:* адважным Ён дае яго ў арэнду.

✳

### ПРЫКАЗКІ

Падаруй каня таму, хто гаворыць праўду, бо яму трэба будзе шыбка ўцякаць! (Армянская прыказка).

Калі бацька дае грошы сыну, абодвы сьмяюцца. Калі сын дае бацьку, абодвы плачуць. (Жыдоўская прыказка)

Адзяваньне і абуваньне — палавіна жываньня. (Белар. прыказка)

Дбай аб сябе! Ты належыш да дзяржавы. (Бальшавіцкае)

Калі людзі найшчырэй моляцца? — Вучань перад эгзаменам, пан — пры картах; злодзей, як ідзе красьці, а справядлівы — у турме.

✳

### ПАРАСОНЫ

У Японіі пачалі прадаваць парасоны з фасфарыстычным бляскам, каб было безпячней пры пераходзе праз вуліцы.

✳

### ГРЭНЛЯНДЫЯ

Там вучаць у школах, як кіраваць сабакамі ў дарозе, як будаваць лодкі, кідаць гарпун. А дзяўчаты вучацца шыць адзежу са скуры.

✳

### САХАРА

Пад Сахарай выкрылі вялізарнае возера: трэба было-б вялікага капіталу, каб дабываць гэтую ваду, але можна было-б пустыню замяніць на суцэльны оазіс — на райскі сад. Але людзі ня маюць часу, бо трэба сьпяшацца на месяц.

✳

### ПОЛЬСКІ САКРАТАР У МАСКОЎСКАГА:

Гамулка: — Які ў Вас, таварыш Брэжнёў, працэнт камуністаў?

Брэжнёў: — Пасьля ўсіх чыстак асталося мусіць — з усяго савецкага народу — каля 5-ці працэнтаў. —

Г.: — А які працэнт між імі атэістаў?

Бр.: — Ну будзе хіба 95 працэнтаў . .

Г.: — О, гэта вельмі радасна і пахвальна! Значыць, Вы працуеце памысна і пасьпяхова.

Бр.: — Так, але між атэістаў будзе 95 працэнтаў кар'ерыстаў!

Гамулка: — О-о-о! гэта ўжо так, як і ў мяне . . .

✳

### У ЦАРСТВЕ ЦЕНЯЎ

У цёмным Царстве Ценяў спаткаліся Маркс і Лечін з Бэльзэбубам.

Маркс: — Увага! нехта ідзе . . . Хто тут?

Бэльзэбуб: — Я ёсьць цень Падземнага Царства, але мне нельга сказаць свайго імяні. — Мяне паслаў Няведамы, каб адказаць вам на вашыя закіды. Чаго вам трэба?

Маркс: — А хто такі гэты «Няведамы»?

Бэльзэбуб: — Гэта Той, Якога вы ня прызнавалі на зямлі і публікавалі, што Яго зусім няма.

Ленін: — Ага? Значыць, Ён ёсьць . . . Дык няхай Ён мне скажа, чаму мяне дасюль ня судзіў? І чаму мяне зьвязаў з гэтым Марксам? І чаму мы тут блудзім? І як доўга будзе гэтае трываць ? ? ?

Бэльзэбуб: — Ён ужо вас засудзіў завочным судом, як ты сам судзіў мільёны людзей. — А вы зьвязаны, каб маглі тут быць у камуністычным брацтве, роўнасьці і свабодзе. — І будзеце блудзіць у цемры *вечна*, як вы наблудзілі ў сваей праграме.

Маркс: — А скажы нам . . .

Бэльзэбуб: — Мая місія скончана: жадаю вам «вечнага адпачынку»!

✳

### ЧАРГА Ў КАЛГАСЕ

Агітатар у калгасе «Чырвоны Пятух» пытаецца: — Палічыце, грамадзяне, колькі вы траціце часу штодня на малітву?

Голас з народу І-ы: — Гэта залежыць ад ахвоты — ну, мінут 5-10 . . .

Агітатар: — Значыць, у тыдзень больш гадзіны! а ў год ? . .

Голас ІІ-гі: — А вы палічыце, колькі трацім на чаргу па хлеб, па цукар, па мяса?

Галасы: — Трэба чакаць гадзінамі! — А то і цэлыя ночы . . . А мяса і зусім не дастанеш!

Агітатар: — Дык пяройдзем да іншае тэмы. —

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ

Я. Гэрмановіч

### НУМАР СТО — № 100

*Чытач, бачыш? — Нумар СТО!*
*Ты спытаеш: — Ну дык што? —*

*Было клопатаў нямала,*
*Мора працы і заходу. —*

*А якую нагароду*
*Мелі мы? — Якую хвалу*
*Ад Вас — нашага Народу?..*

*О, таго мы ня шукаем*
*І ня просім, не чакаем! —*
*Вы чытаеце —нам досыць. —*
*А яшчэ рэдактар просіць*
*Вашай крытыкі і рады,*
*І навукі*
*І прынукі...*
*І з таго мы будзем рады:*
*Каб Бог даў нам болей сілы*
*Служыць Бацькаўшчыне мілай!*

*Але-ж ёсьць адна прычына —*
*Працаваць нам немагчыма:*

*Знаем мы, ах, мілы Браце, —*
*Любіш, седзячы у хаце,*
*«Божым Шляхам» прачытаці. —*

*Як чытаеш, а не плаціш,*
*Сябе гэтым не збагаціш,*
*А прытым і гонар траціш.*
*За мільён, ані за кукіш*
*Нідзе гонару ня купіш!..*

*На парадак вось такі*
*Нам пяро ляціць з рукі. —*

*Дык спытаем мы пры гэтым*
*Перад Богам — пад сакрэтам,*
*Ці ў пустую нашу міску*
*Ты прыслаў сваю падпіску?*

---

### ЗЬМЕСТ:



---

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14